№ 4
Люты 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



# Героі нашага часу...

## Прэзідэнт Беларусі ўсё-ткі "прайграў моладзь"

Пасьля падзей, якія потым атрымалі назву "Вясна-96", у беларускім друку зьявіліся сьцьвярджэньні кшталту: "Прэзідэнт прайграў моладзь..." Прычым казалі гэта ня столькі дзеячы апазіцыі, колькі супрацоўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі ды вышэйшыя вайсковыя і міліцэйскія чыны. І сапраўды, у "Вясьне-96" найбольш актыўны ўдзел прынялі хлопцы і дзяўчаты, якія пайшлі ў першыя класы школаў недзе напачатку "перабудовы" і былі вольныя ад камуністычнай ідэалагічнай апрацоўкі. Вось тады і пачаў беларускі прэзідэнт "барацьбу за моладзь", з вынікамі якой мы сутыкаемся і па сёньня. А таму суд над Вадзімам Лабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім трэба разглядаць яшчэ і як адзін зь яскравейшых момантаў гэтае барацьбы.

Напачатку прэзідэнт захацеў заманіць моладзь у свае прыхільнікі "пернікам". Уладзімір Замяталін разам з Усеваладам Янчэўскім прапанавалі адрадзіць на Беларусі "магутную маладзёжную арганізацыю", якой некалі быў камсамол. Ствараемы Беларускі патрытычны саюз моладзі зь першых сваіх крокаў патрапіў пад асабісты патранаж прэзідэнта. Дарэчы, словы "патрыёт" і "патрыятызм" у нашым выпадку набылі своеасаблівае значэньне: патрыятызм стаў разумецца, як вернасьць, адданасьць канкрэтна прэзідэнту, а не Радзіме, Айчыне... "Патрыёты прэзідэнта", якіх у народзе адразу ж ахрысьцілі "лукамольцамі", занялі прывілеяванае становішча ў маладзёжным асяродку. Кіраўніцтва БПСМ займела машыны, пэйджары, сотавыя тэлефоны, пасучаснаму абсталяваныя кабінеты, мажлівасьць уплываць на прыёмныя камісіі вну і г. д... Словам, усё, акрамя... папулярнасьці сярод моладзі. Дробнасьць ідэі, пакладзенай у аснову руху (нагадаем — вернасьць "бацьку"), выклікала і выклікае ў хлопцаў і дзяўчат адно — сьмех. Ідэалагічна неазаангажаваная моладзь сама можа сёньня арыентавацца і выбіраць згодна сваіх густаў, адукаванасьці, прыхільнасьцяў... Дзякуй Богу, мы пакуль яшчэ маем магчымасьць глядзець ня толькі прапрэзідэнцкае, беларускае тэлебачаньне, чытаць не толькі "бацькавы" газеты ды кнігі. І таму тое, што прапануе прэзідэнт са сваім "лукамолам", нязьменна выклікае ў моладзі адно — непрыняцьце, агіду. Хлопцы і дзяўчаты будучыню сваю зьвязваюць з дэмакратыяй, а не з дыктатурай і татальным дэспатызмам "правадыра ўсіх славянаў".

(Працяг на стар. 8)

## Хроніка

***У студзені***, пасьля выхаду першага ў гэтым годзе нумара газеты Таварыства Беларускай Мовы "Наша Слова", друкарня г.Ліды адмовілася друкаваць наступны нумар газеты па указаньню абласнога начальства. Прычына — артыкул доктара тэхнічных навук, прафесара А.Саламонава "Нават ворагі нашы спрыялі захаваньню беларускай мовы".

***6 студзеня*** — у Цэнтральным судзе г.Менска адбыўся суд над дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13 скліканьня Людмілай Грązновай і Генадзем Карпенкам за ўдзел у мітынгу 23 лістапада 1997 г. Суддзя А.Барысёнак вынес абодвум дэпутатам папярэджаньне.

***У лютым*** — выставілі чарговы пікет сябры раённай рады БНФ г.Віцебска Б.Хамайда і Ю.Мароз. Міліцыяй пікет быў спынены, а на пікетоўцаў складзены чарговы пратакол. Суд адбыўся ў Чыгуначным раёне г.Віцебску. Судзьдзя С.Туфан асудзіла Ю.Мароза на штраф у 37 мільёнаў руб., а Б.Хамайду апраўдала.

***У лютым*** – сябры спецыяльнай камісіі па ацэнцы парушэньняў прэзідэнтам А.Лукашэнкам Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь, у якую ўваходзіў і А.Клімаў, прынялі заяву, у якой сьцьвярджаецца, што А.Клімаў арыштаваны па палітычных матывах.

(Працяг на стар. 6)

***Гэты нумар бюлетэня "Права на волю" амаль цалкам прысьвечаны адной тэме: судоваму працэсу над палітычнымі вязьнямі Вадзімам Лабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім.***

# Рэжым прадэманстраваў сваю жорсткасьць

**Дзевятнаццацігадовы Аляксей Шыдлоўскі асуджаны на паўтары гады пазбаўленьня волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Шаснаццацігадовы Вадзім Лабковіч атрымаў такі ж прысуд, але з адтэрміноўкай на два гады... Карэспандэнт "Права на волю" распавядае пра тое, як праходзіў судовы працэс.**

### *Паўгода за кратамі*

18-19 і 23-24 лютага ў Менскім абласным судзе разглядалася справа сяброў арганізацыі "Малады Фронт" Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага. Абодва яны правялі за кратамі паўгода. Вынікаў гэтай справы, без перабольшваньня, чакалі ня толькі як вырашэньня лёсаў канкрэтных 16-гадовага школьніка і студэнта, якому ў турме споўнілася 19 год. Тая ўпартасьць, зь якою ўлады праз месяц пасьля арышту групы П. Шарамета і напярэдадні зьмяненьня Закона аб друку, пачалі перасьледаваць "графіці" на сьценах, вызначыла новую тэндэнцыю. Пасьля апазіцыйных палітыкаў, а потым і журналістаў, улады вырашылі распачаць змаганьне зь беларускай моладзьдзю. І, падобна, менавіта моладзь уяўляецца сёньня рэжыму галоўным ворагам, якога трэба тэрмінова "ставіць на мейсца". Гэта вельмі яскрава пацьвярджае і "паказальнасьць" працэсу, што адбыўся ў Менску, і перасьлед прадстаўнікоў грамадскасьці падчас так званага "адкрытага" суда, і жорсткасьць прысуду.

У першыя два дні разгляду справы яшчэ мелася надзея на ўмоўнае пакараньне альбо тое, што яго, як у выпадку з паэтам Славамірам Адамовічам, "падгоняць" пад тэрмін, ужо адбыты падсуднымі ў турме. 23 лютага ў настроях афіцыйных асобаў нешта зьмянілася...

### *"Не хвалюйцеся, мы вас усіх пасадзім..."*

А 18 лютага раніцай каля залы паседжаньняў, выдзеленай для слуханьня справы маладафронтаўцаў, было не прабіцца да дзьвярэй. Прадстаўнікоў прэсы і грамадскасьці прыйшло як мінімум утрая больш, чымсьці магла ўмясьціць зала. Хаця ў гэтым судзе, як паведамілі ў канцылярыі, маецца памяшканьне на 80 зь лішнім чалавек, пераносіць працэс туды судзьдзя не захацеў, спаслаўшыся на нязручнасьці для канвою (адсутнасьць кратаў вакол лавы падсудных). "Ахоўнікі парадку", між тым, скардзіліся начальству па тэлефоне: "Што рабіць? Тут натоўп бэнээфаўцаў..."

Судзьдзя Лаўроў на пытаньні моладзі аб немагчымасьці патрапіць у залу паседжаньняў, лагодна ўсьміхаючыся адказваў-супакойваў амаль бацькоўскім абяцаньнем: "Не хвалюйцеся, мы вас усіх пасадзім..." Двухсэнсоўнасьць гэтых словаў, адзначу, паступова набыла найгоршую афарбоўку... Прабіраючыся скрозь натоўп хлопцаў, дзяўчат, бабулек, пракурор Цімафееў гучна крычаў, што трэба здаваць прысутных у міліцыю і "складаць пратаколы".

Па гэтых прычынах замест 10 гадзінаў суд пачаўся каля 11.30.

### *Першы прысуд*

Яшчэ адзін штрых да абстаноўкі вакол працэсу. Прыкладна ў 9.50 раніцы быў затрыманы міліцыяй 31-гадовы актывіст БНФ зь Віцебску Юрый Мароз за тое, што стаяў ля ганку суда з плакатам — "Беларусафобны злачынны рэжым сёньня судзіць беларусаў за любоў да сваёй Радзімы". Ён патрабаваў вызваліць з турмы Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Лабковіча, а таксама арыштаванага ў кастрычніку сябра "Маладога Фронту" Вадзіма Кабанчука, які цяпер чакае вынікаў сьледства ў ізалятары на "Валадарцы". У той жа дзень Ю. Мароз быў асуджаны на 15 сутак пазбаўленьня волі. Судзьдзя Царашкова зь Ленінскага райсуда сталіцы, спаслалася на артыкул 167 прым. новага Адміністратыўнага Кодэксу (ён, фактычна, замяніў сабой сумнавядомы "дэкрэт №5"). На рашэньне Царашковай не паўплывала тое, што Ю. Мароз — інвалід ІІІ-й групы і нядаўна быў моцна зьбіты невядомымі злачынцамі. Затое адыгралі ролю факты яго ранейшага ўдзелу ў палітычных акцыях...

### *Клетка на дваіх*

Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча даставілі на працэс пад узмоцненай аховай (мяркуючы па значках на форме, былі задзейнічаны, акрамя "простай" міліцыі і АМАПу, таксама ўнутраныя войскі і сьпецназ). На хлопцах былі наручнікі, якія зь іх зьнялі толькі ў клетцы. Ахова мела пры сабе службовага сабаку. Было прад'яўлена тры пункты абвінавачаньня: 186² КК РБ (зьнявага дзяржаўнай сімволікі), 201 ч.2 (злоснае хуліганства) і арт. 225 (пашкоджаньне помнікаў гісторыі і культуры, якія ахоўваюцца дзяржавай). Перакладаючы абвінавачаньне з мовы Крымінальнага Кодэксу, канкрэтызуем: у Беларусі ахоўваюцца помнікі Леніну і Дзяржынскаму. Лабковіч і Шыдлоўскі былі абвінавачаны ў нанясеньні на пастаментах правадыру і галоўнаму чэкісту, а таксама на сьценах будынкаў горада Стоўбцы "надпісаў, якія зьне괴важаюць гонар і годнасьць грамадзян", у замене на адміністрацыйных будынках "дзяржаўных" сьцягоў на гістарычныя бел-чырвона-белыя. У заключэньні сьледства удакладнялася, што зрабілі гэта падсудныя "па папярэдняй змове", "з асаблівым цынізмам", "груба парушаючы грамадскі парадак", разам з "групай нявызначаных асоб" у ноч на 3 жніўня 1997 г.

Варта адзначыць два моманты, што мелі мейсца напачатку працэсу. Папершае, асаблівае значэньне пры слуханьні справы прыдавалася нібыта нанясеньню хлопцамі матэрыяльных стратаў дзяржаве — усё, што хоць крыху закранала палітыку, сітуацыю ў грамадстве, судзьдзя Уладзімір Лаўроў старанна "адмятаў". Па-другое, многія прысутныя, у тым ліку і назіральнікі з Міжнароднай праваабарончай арганізацыі "Human Rights Watch", зьвярнулі ўвагу на словы судзьдзі ў самым пачатку сказаныя да Аляксея Шыдлоўскага: "Вы, дзякуй Богу, са жніўня знаходзіцеся ў ізалятары..." Як быццам гаворка ідзе не пра надпіс на сьцяне, а пра забойства... (Дарэчы, у маёй журналісцкай практыцы я толькі пару разоў бачыла ў судзе столькі аховы — калі ад людскога гневу баранілі забойцаў, у дадзеным жа выпадку, пэўна, падсудных хацелі "абараніць" ад падтрымкі людзей).

### *Сьведка-шантажыст*

Вадзім Лабковіч сваёй віны ні па адным пункце не прызнаў, Аляксей Шыдлоўскі — прызнаў толькі часткова, не адмаўляючы, што ўвечары 2 жніўня паказваў сваім гасьцям родныя Стоўбцы.

Суд выслухаў некалькіх сьведак, у тым ліку маці Вадзіма Ядзьвігу Іосіфаўну, яго настаўніцу па беларускай мове і літаратуры Варвару Кароль. Жонка Шыдлоўскага Іна Піменава адмовілася ад паказаньняў, патлумачыўшы, што іх могуць скарыстаць супраць мужа. (Падчас сьледства Іна распавядала журналістам пра "апрацоўку" яе КДБ: пад прымусам яна напісала паклёп на сакратара Управы БНФ Вячаслава Сіўчыка — калі не напішаш, "нешта здарыцца" ў СІЗА зь мужам.) Ціск КДБ быў і на іншых удзельнікаў тых падзей. Крыху пазьней прытулку ў Фінляндыі папрасіла Аліна Бельская — студэнтка Эўрапейскага гуманітарнага універсітэта, якая фігуруе ў судовай справе сярод "групы нявызначаных асоб".

Як бачна з працэсу, школьнік і студэнт сядзелі паўгода ў ізалятары толькі дзеля вышуку сьледствам трох сьведак. Імі сталі стаўбцоўскі настаўнік Сяргей Шэндзік, супрацоўнік пажарнай аховы Віктар Ілюшын і ягоны стрыечны брат Уладзімір Букіноўскі (блізкі да справаў стаўбцоўскай суполкі "Маладога Фронту"). Як заявіў Аляксей Шыдлоўскі, Ілюшын пасьля 3 жніўня фактычна шантажаваў яго, патрабуючы грошы "за маўчаньне". Рэч у тым, што ў ноч на 3 жніўня, пажарнік, едучы па горадзе на аўтамашыне, сустрэў групу моладзі, сярод якой заўважыў знаёмага яму Аляксея Шыдлоўскага. З паказаньняў Ілюшына і ягонага спадарожніка Сяргея Шэндзіка карціна начной сустрэчы з Шыдлоўскім складаецца дужа напэўная і супярэчлівая. Але суд прыслухаўся менавіта да словаў Ілюшына, якому "дастаткова было імгненьня", каб цёмнаю ноччу пазнаць Аляк-

сея, які стаяў да яго сьпінаю. Хаця са словаў настаўніка Шэндзіка атрымліваецца, што сустрэча адбылася на іншым баку вуліцы... Аднак, грунтуючыся выключна на словах аднаго сьведкі — Ілюшына, суд растлумачыў такую сваю пазіцыю тым, што другі сьведка — інвалід па зроку і таму мог "нешта пераблытаць". Як заўважылі адвакаты, ёсьць пэўная супярэчнасьць і ў паказаньнях сваяка Ілюшына — Букіноўскага. Той нібыта распавёў яму пра Шыдлоўскага, баючыся папрасіць яго прыняць заяву аб выхадзе з суполкі "МФ". Але, як адзначыла адвакат Таццяна Станкевіч, нягледзячы на перасьлед Шыдлоўскага, ягоны "падначалены" не выйшаў з арганізацыі і дагэтуль.

Дзіўна і іншае: адмаўляючы факт шантажу Аляксея Шыдлоўскага, пажарнік Ілюшын так і не растлумачыў, чаму, абураны зьяўленьнем лозунгаў і заменай сьцягоў, ён пайшоў скардзіцца на Аляксея ў міліцыю (Стаўбцоўскі РАУС) толькі праз тры тыдні?

### "Несанкцыянаваныя" пратэсты

...Пакуль дапытвалі сьведак у зале суда, перад ягоным будынкам зьяўляліся новыя ахвяры працэсу. Маладыя хлопцы і некалькі спачуваючых пажылых жанчын, што не былі дапушчаны ў залу суда (не хапіла мейсцаў), мерзьлі ля ганку, ачэпленым АМАПам. (У першы ж дзень будынак быў "ачышчаны" ад спачуваючых з-за гучнага скандаваньня "Жыве Беларусь!" у час, калі падсудных праводзілі ў залу). Некалькі чалавек пачалі хадзіць туды-сюды з рукамі счэпленымі ззаду альбо на шыі. Напачатку ніхто з аховы не зьвяртаў на іх увагі. Потым сёй-той пачаў пасьмейвацца. І раптам паступіў загад: перапыніць "пратэст"... Трое 15-гадовых хлопцаў — Зьміцер Касьяровіч, Данiла Мілаванаў і Максім Кашынскі — былі схоплены, калі ішлі ў краму піць каву. Праз тры гадзіны знаходжаньня ў пастарунку іх адпусьцілі"на рукі" бацькоў ды праваабаронцаў зь Хельсінкскага Камітэту. Хлопцамі зоймецца цяпер камісія па справах непаўналетніх. Іхнім бацькам пагражаюць штрафы да 500 тысяч рублёў за ўдзел дзяцей у "несанкцыянаваным шэсьці". На наступны дзень каля 9.30 раніцы за тое самае "шэсьце" затрымалі ўжо траіх паўналетніх. Віталь Алясяёнак, назіральнік БХК, што напярэдадні ўгаворваў міліцыянтаў адпусьціць непаўналетніх, як было заяўлена, "аказваў непадпарадкаваньне работнікам міліцыі" (ужо знаёмая нам судзьдзя Царашкова прысудзіла яму буйны штраф). Алесю Сарнацкаму з "Маладога Фронту" інкрымінавалі той жа арт. 167 прым Адміністратыўнага Кодэксу, што і Ю. Марозу — незаконныя акцыі пратэст (у выніку — таксама штраф). Вадзім Канапацкі, як назіральнік праваабарончага камітэту "Вясна-96", быў адпушчаны.

У той жа дзень каля будынку Менскага абласнога суда быў схоплены і зьбіты сябра Управы БНФ Уладзімір Юха. Ён спрабаваў заступіцца за хлопцаў, якіх амапаўцы па загадзе начальства зганялі з прыступак ганку. Сьведкаў захопу У. Юхі спрабавалі адагнаць за рог будынку, пры гэтым некаторыя "ахоўнікі парадку" дэманстравалі стараннасьць, хапаючы за каўняры, як лялек, маладых дзяўчат. Уладзіміру Юхо на шляху ў апорны пункт міліцыі чацьвёра "блакітных мундзіраў" нанесьлі цялесныя пашкоджаньні — у прыватнасьці, пашкодзілі руку, і спрабавалі душыць (на шыі засталіся сьляды пальцаў). Затрыманага былі вымушаны даставіць у бальніцу хуткай дапамогі. Калі праваабаронцы Надзея Дударава (БХК) і Дыдзрык Лохман ("Human Rights Watch") хацелі забраць У. Юху з бальніцы пасьля працэдураў, то вартаўнік, узброены аўтаматам, прыгразіў, што пачне страляць. Уладзіміра Юху адпусцілі толькі ўвечары (каля 17 гадзінаў). Суд над ім быў перанесены на 4 сакавіка.

### Суд адмаўляе паралелі і палітыку

З 19 лютага людзей прапускалі ў будынак абласнога суда толькі па пашпартах (акрамя журналістаў), было забаронена праносіць фота- і відэа апаратуру. Усяго прайшло прыблізна 40 чалавек — больш зала не ўмяшчае. сьпецыяльным апаратам пры ўваходзе правяралася наяўнасьць зброі. Потым трэба было прайсьці праз некалькі ланцугоў амапаўцаў. Такім чынам, ганак уваходу ў суд усе гэтыя дні нагадваў вайсковы КПП. У апошні дзень "КПП" пашырылася і на прылеглую тэрыторыю і "татальны кантроль" зведалі на сабе і некаторыя выпадковыя мінакі. Чым бліжэй было да абвяшчэньня прысуду, тым больш станавілася забаронаў. Урэшце нават стаяньне ў некалькіх метрах ад амапаўцаў было прыроўнена да "несанкцыянаванага мітынгу".

Пракурор Дзмітрый Цімафееў ледзь не палову сваёй прамовы прысьвяціў мастацкім творам на тэму інквізіцыі Сярэднявечча. І, без ніякога пераходу — фашызму: аўтарству Вадзіма Лабковіча абвінваўца раптам прыпісаў знак, які, "калі яго заштрыхаваць, нагадвае свастыку". Між тым тры папярэднія дні пра гэты знак гаворкі не было — казалася адно пра надпісы, якія па словах самога ж судзьдзі Лаўрова, абражаюць толькі аднаго чалавека (які, дадаў той жа судзьдзя, "не паедзе ў Стоўбцы і іх усё роўна не ўбачыць"). Пракурор зьняў з падсудных абвінавачаньне ў пашкоджаньні помнікаў і зьнявазе дзяржаўных сімвалаў, як недаказаныя, настойваючы на "злосным хуліганстве" — так былі кваліфікаваны ім надпісы, і запрасіў 2 гады зьняволеньня кожнаму з падсудных : В. Лабковічу з 2-х гадовай адтэрміноўкай, А. Шыдлоўскаму — у калоніі ўзмоцненага рэжыму. Абарончы бок прасіў абодвух хлопцаў апраўдаць, зьвярнуўшы ўвагу ня толькі на супярэчлівасьць паказаньняў сьведак, але і на пазбаўленьне Лабковіча і Шыдлоўскага адваката на працягу першых дзён арышту. Справа грунтуецца на частковых ( зноў жа, супярэчлівых) прызнаньнях Аляксея і Вадзіма ва ўмовах СІЗА. Вядома, што там Шыдлоўскі быў зьбіты (у Жодзіна), месяц праляжаў у бальніцы, а перад гэтым быў вымушаны пратэставаць — аб'явіў галадоўку. (Надзея Дударава не выключае, што менавіта расповяд на судзе пра зьбіцьцё і шантаж і адыгралі ролю ў вызначэньні пакараньня Аляксею). Адвакат Іван Дудараў падмацаваў свае словы ў абарону падсудных спасылкай на адну з пастановаў Пленума Вярхоўнага Суда: дзеяньні хлопцаў, сказаў ён, не адпавядаюць, згодна з гэтым дакументам, вызначэньню "злоснае хуліганства". Іншыя абаронцы гаварылі пра справу маладафронтаўцаў у кантэксце з сітуацыяй у краіне і настроямі ў грамадстве — у тым ліку сярод моладзі. Судзьдзя У. Лаўроў спрабаваў перапыняць "усялякую палітыку", але, як падкрэсьліла грамадскі абаронца Надзея Дударава працэс палітычны, хоча гэтага суд ці не: "Не было б на лаве падсудных гэтых хлопцаў — былі б іншыя".

Да матэрыялаў справы былі далучаны 173 подпісы вучняў 95-й менскай школы, дзе вучыцца В. Лабковіч, і амаль 10 тысяч подпісаў грамадзян у падтрымку палітвязьняў. Свой зварот накіраваў у суд таксама прайшоўшы падчас працэсу зьезд "Маладой Грамады". Былі азнаёмлены ўдзельнікі працэсу і зь меркаваньнямі пра сітуацыю з правамі чалавека на Беларусі Еўрапарламенту: у звароце да кіраўніцтва краіны было і патрабаваньне выпусьціць з турмы Шыдлоўскага і Лабковіча. А ў першы дзень разгляду справы Н. Дударава зьвяртала ўвагу на падобны ўчынак са сьцягам Івана Ціцянкова, які разарваў тагачасны дзяржаўны сьцяг. Пракуратура тады афіцыйна вызначыла дзеяньні Ціцянкова як замену "абвятшалага палотнішча". Суд адмовіўся далучыць заключэньне Генпракурора да справы...

### Паўтары гады за іншадумства

Аляксей Шыдлоўскі і Вадзім Лабковіч у выніку былі прызнаны вінаватымі па ўсіх трох артыкулах: $187^2$, 201 ч.2 і 225 КК РБ. Калегія пад старшынствам судзьдзі У. Лаўрова прызнала злачынства цяжкім і прысудзіла кожнаму па 1 году 6 месяцаў зьняволеньня. Выкананьне прысуду Вадзіму, як непаўналетняму, адкладзена на 2 гады (што азначае ў дадзенай сітуацыі пільны нагляд міліцыі). Аляксея Шыдлоўскага чакае калонія ўзмоцненага рэжыму...

Вадзіма Лабковіча, вызваленага з-пад варты, сустракалі кветкамі і вітаньнямі, як належыць сустракаць нацыянальнага героя. Але побач з гэтым былі сьлёзы на вачах Аляксеевай маці і прысутных жанчын. Ад сьлёз на тварах нават зьбягалі амапаўцы і "людзі ў цывільным" Але "стыхійны мітынг" ад будынку суда яны паступова выцесьнілі на газоны, потым да скрыжаваньня вуліц Кірава і Леніна. Зьявілася процьма міліцыянтаў з відэакамерамі. А калі зь дзесятак журналістаў бралі інтэрв'ю ў Вадзіма Лабковіча і ягонай маці, амапаўцы схапілі дэпутата і журналіста В. Шчукіна...

Рэжыму не ўдалося зламаць 16-гадовага Вадзіма. "Калі мае погляды і зьмяніліся, дык толькі ў горшы бок у адносінах да ўладаў", — прызнаўся ён. У юнака цяпер амаль пастаянна баліць сэрца. Аднак ён мяркуе здаць экстэрнам іспыты і скончыць школу разам са сваім класам. "Тое, што Аляксей застаўся за кратамі — вялікая несправядлівасьць", — дадае Вадзім.

Адвакаты Т. Станкевіч і І. Дудараў зьбіраюцца абскардзіць прысуд у Вярхоўным Судзе, а міжнародныя назіральнікі — сказаць сваё слова ў міжнародных арганізацыях. "Human Rights Watch" ацаніла справу Шыдлоўскага і Лабковіча як "зьдзек над правасудзьдзем". Аднак абаронцы не маюць вялікіх надзеяў, што вышэйшыя інстанцыі адменяць рашэньне першай.

Такім чынам, на гэтым працэсе улады Беларусі прадэманстравалі сваю гатоўнасьць змагацца "ва ўзмоцненым рэжыме" з патрыятычнай беларускай моладзьдзю. Пасьля гэтага хочаш не хочаш, ды і задумаешся: а ці не пачнуць улады перасьледаваць іншадумцаў ўжо ў дзіцячых садках?

**Таццяна СЬНІТКА**

Дакумент без каментарыяў

# "...З асаблівай дзёрзкасьцю і выключным цынізмам..."

## Абвінаваўчае заключэньне

**па крымінальнай справе №230817 па абвінавачаньні Шыдлоўскага Аляксея Міхайлавіча і непаўналетняга Лабковіча Вадзіма Дзьмітрыевіча ў зьдзяйсьненьні злачынства, прадугледжанага арт. арт. 201 ч.2, 186², 225 ч.2 КК Рэспублікі Беларусь.**

Дадзеная крымінальная справа ўзбуджана СА Стаўбцоўскага РАУС 3 жніўня 1997 года па прыкметах складу злачынства, прадугледжанага арт. 201 ч.2 КК Рэспублікі Беларусь. (л. с. 1).

У ходзе папярэдняга сьледства ўстаноўлена, што ў перыяд часу з 00 гадзін 30 хвілін да 03-00 гадзін 3 жніўня 1997 года, непаўналетні Лабковіч Вадзім Дзьмітрыевіч па папярэдняй змове з Шыдлоўскім Аляксеем Міхайлавічам і групай нявызначаных асобаў у колькасьці васьмі чалавек, сумесна, безпрычынна, з хуліганскіх намераў з асаблівай дзёрзкасьцю і выключным цынізмам, груба парушаючы грамадскі парадак, выказваючы яўную непавагу і абражальныя адносіны да грамадства, імкнучыся праявіць свавольства, бясчынства і выхваляньне, сарвалі Дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь з флагштока, які ўстаноўлены на будынку Стаўбцоўскага райвыканкама ў гор. Стоўбцы Менскай вобласьці, нанесьлі фарбай пунсовага і зялёнага колераў з балончыкаў-рыспыляльнікаў на пастамент скульптуры У. І. Леніна, бюст і пастамент з мемарыяльнай дошкай Ф. Э. Дзяржынскаму, а таксама на адміністрацыйныя і гаспадарча-бытавыя будынкі, разьмешчаныя на тэрыторыі гор. Стоўбцы Менскай вобласьці, надпісы, якія абражаюць гонар і годнасьць грамадзян, грамадскую маральнасьць, нанёсшы істотную шкоду ахоўваемым законам грамадскім адносінам, правам і інтарэсам грамадзян, нармальнай дзейнасьці ўстаноў і арганізацый. Так яны, фарбай нанесьлі надпісы: на бюст Ф. Э. Дзяржынскаму, на пастамент і мемарыяльную дошку, разьмешчаныя па вул. Магістральнай у гор. Стоўбцы, нанёсшы матэрыяльныя страты Стаўбцоўскаму ДРБУЧ на суму 1 850 240 рублёў; на фасад будынка Стаўбцоўскага райвыканкаму, разьмешчанага ў гор. Стоўбцы па вул. Леніскай, нанёсшы матэрыяльныя страты Стаўбцоўскаму райвыканкаму на суму пяцьсот тысяч рублёў; на фасад будынка Стаўбцоўскага райцэнтра гігіены і эпідэміялогіі, разьмешчанага па вул. Сацыялістычнай у гор. Стоўбцы, нанёсшы Стаўбцоўскаму райцэнтру гігіены і эпідэміялогіі матэрыяльныя страты на суму 150 000 рублёў; на фасад будынка Стаўбцоўскага раённага вузла сувязі, разьмешчанага па вул. Сацыялістычнай у гор. Стоўбцы, нанёсшы Стаўбцоўскаму раённаму вузлу сувязі матэрыяльныя страты на суму 25 000 рублёў; на фасад будынка крамы "Кнігі", разьмешчанага па вул. Сацыялістычнай у гор. Стоўбцы, нанёсшы кааппрамгандлю Стаўбцоўскага райпо матэрыяльныя страты на суму 403 200 рублёў; на фасады будынкаў цырульні, разьмешчанага па вул. Магістральнай у гор. Стоўбцы і абутковай майстэрні, разьмешчанай па вул. Сацыялістычнай у гор. Стоўбцы, нанёсшы Стаўбцоўскаму камбінату бытавога абслугоўваньня матэрыяльныя страты на суму 1 600 000 рублёў; на фасад будынка крамы №77 Баранавіцкага АРЗа НОД-2 Бел. чыгункі, разьмешчанага ў гор. Стоўбцы па вул. Сацыялістычнай, нанёсшы Баранавіцкаму аддзяленьню рабочага забесьпячэньня матэрыяльныя страты на суму 1 157 000 рублёў; на фасады бытавых будынкаў стадыёна "Юнацтва", разьмешчаная па вул. Ленінская ў гор. Стоўбцы, нанёсшы Стаўбцоўскаму раённаму аддзелу адукацыі матэрыяльныя страты на суму 60 000 тысяч рублёў; на фасад жылога дома №48 па вуліцы Ленінская ў гор. Стоўбцы, на фасад прыбіральні пры Стаўбцоўскім раённым Доме культуры, на паркавую арку, устаноўленую на плошчы Леніна ў гор. Стоўбцы, нанёсшы матэрыяльныя страты Стаўбцоўскаму РКО ЖКХ на суму 50 712 рублёў; на фасад будынка Стаўбцоўскай раённай бібліятэкі, разьмешчанай па вул. М. Горкага ў гор. Стоўбцы, нанёсшы матэрыяльныя страты Стаўбцоўскаму раённаму аддзелу адукацыі на суму 200 000 рублёў.



Яны ж, у працяг сваіх хуліганскіх дзеяньняў, з асаблівай дзёрзкасьцю сарвалі з флагштока, устаноўленага на будынку Стаўбцоўскага райвыканкама, разьмешчанага на вул. Ленінская, 45, у гор. Стоўбцы, Дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь коштам 300 000 рублёў, падчас зрыву сьцяга з хуліганскіх намераў пашкодзілі флагшток, на рамонт якога было патрачана 300 000 рублёў, з хуліганскіх намераў загадзя вырабілі з металічных бляшанак два прадметы, якія імітуюць узрыўныя ўстройствы і прымацавалі адно зь іх да пашкоджанага флагштоку на будынку Стаўбцоўскага райвыканкама, дзе замест сарванага Дзяржаўнага сьцяга Рэспублікі Беларусь вывесілі бела-чырвона-белы сьцяг, другое імітуючае ўзрыўное ўстройства замацавалі на асьвятляльнай вышцы стадыёна "Юнацтва" ў гор. Стоўбцы, каля вывешанага імі ж бела-чырвона-белага сьцягу, г. зн. тым самы спрабавалі сарваць нармальную дзейнасьць установ і арганізацый, з хуліганскіх меркаваньняў, з асаблівай дзёрзкасьцю і выключным цынізмам нанёсшы істотную шкоду ахоўваемым законам грамадскім адносінам, правам і інтарэсам грамадзян, нармальнай дзейнасьці ўстаноў і арганізацый, а таксама матэрыяльныя страты на агульную суму 5 831 152 рублёў.

Яны ж, у перыяд часу з 01-00 да 02-00 гадзін 3 жніўня 1997 года, дзейнічаючы безпрычынна, з хуліганскіх намераў зьдзейсьнілі зьдзек над Дзяржаўным сьцягам Рэспублікі Беларусь, які ўстаноўлены на флагштоку на будынку Стаўбцоўскага райвыканкама. А менавіта, з асаблівай дзёрзкасьцю і выключным цынізмам, груба парушаючы грамадскі парадак і выказваючы яўную непавагу і абразьлівыя адносіны да грамадства, безпрычынна, імкнучыся праявіць свавольства і выхваляньне, наносячы істотную шкоду ахоўваемым законам правам і інтарэсам грамадзянаў, залезьлі на дах будынку Стаўбцоўскага райвыканкаму, дзе наўмысна сарвалі з флагштока, які ўстаноўлены на даху, Дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь, вывесілі замест яго бела-чырвона-белага колеру і прымацавалі прадмет, які імітуе ўзрыўное ўстройства.

Яны ж, у перыяд часу з 00 гадзін 30 хвілін да 03-00 гадзін 3 жніўня 1997 года, безпрычынна, з хуліганскіх намераў, з асаблівай дзёрзкасьцю і выключным цынізмам, груба парушаючы грамадскі парадак і выказваючы яўную непавагу і абразьлівыя адносіны да грамадства, наўмысна пашкодзілі помнікі гісторыі і культуры, ўзятыя пад ахову сьпецыяльным рашэньнем Менскага аблвыканкаму ад 26 лютага 1988 года, шляхам нанясеньня фарбамі пунсовага і зялёнага колераў надпісаў, якія абражаюць гонар і годнасьць грамадзян на бюст Ф. Э. Дзяржынскаму на пастаменце і мемарыяльнай дошцы, устаноўленай па вуліцы Магістральнай ў гор. Стоўбцы і на пастамент скульптуры У. І. Леніна, якая устаноўлена на плошчы Леніна у гор. Стоўбцы. (Л. с. 2-287).

На папярэднім сьледстве дзеяньні Лабковіча Вадзіма Дзьмітрыевіча і Шыдлоўскага Аляксея Міхайлавіча кваліфікаваліся па арт. арт. 201 ч.2, 186², 225 ч.2 КК Рэспублікі Беларусь, як зьдзяйсьненьне злоснага хуліганства,

 

што аднозьніваецца па свайму зьместу выключным цынізмам і асаблівай дзёрзкасьцю, зьдзекам з хуліганскіх намераў над Дзяржаўным сьцягам Рэспублікі Беларусь шляхам яго зрыву і наўмыснае пашкоджаньне гісторыка-культурных каштоўнасьцяў, узятых пад ахову дзяржавай.

Будучы дапытаным у якасьці абвінавачваемага па арт.арт. 201 ч.2, $186^2$, 225 ч.2 КК Рэспублікі Беларусь, Шыдлоўскі Аляксей Міхайлавіч засьведчыў, што вінаватым у збдзяйсьненьні інкрымінуемага дзеяньня сябе прызнае часткова, тау што непасрэдна ў нанясеньні надпісаў на сьцены будынкаў, зрыве Дзяржаўнага сьцягу Рэспублікі Беларусь і пашкоджаньні помнікаў гісторыі і культуры ўдзелу не прымаў, а толькі сумесна з Лабковічам В. Д. і нявызначанымі і яму незнаёмымі асобамі хадзіў па горадзе, калі тыя займаліся супрацьпраўнымі дзеяньнямі, сам актыўных дзеяньняў не рабіў. Таксама Шыдлоўскі засьведчыў, што пра тое, што з гор. Менску прыбыла група моладзі даведаўся ад сваёй жонкі Піменавай І. Л., пра мэты іх прыезду не ведаў. Разам з жонкай каля 00 гадзін 30 хвілін прыйшоў на сустрэчы да помніка Дзяржынскаму, там іх чакала група моладзі яму незнаёмай, разам з раней знаёмым Лабковічам Вадзімам. Бюст Дзяржынскаму да яго прыходу быў размаляваны фарбавальнікамі і на яго былі нанесеныя надпісы. У некаторых хлопцаў былі балончыкі-распыляльнікі з фарбай. Разам з Лабковічам, жонкай, дзяўчынай па імю Аліна і хлопцам па імю Павел, пайшлі па вуліцах гарада. Надпісы на сьцены будынкаў наносілі Лабковіч і хлопец па імю Павел, на будынак Стаўбцоўскага райвыканкама таксама залазілі яны, што рабілі ня бачыў. Прадметаў, якія імітуюць узрыўныя ўстройствы таксама ні ў кога ня бачыў. Лабковіч і хлопец па імю Павел падыходзілі да помніка Леніну на пл. Леніна, але ці наносілі яны на помнік надпісы ня бачыў, таму што блізка не падыходзіў. Калі Лабковіч спусьціўся з даху райвыканкама, бачыў у ягоных руках згорнуты Дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь. Хлопец па імю Павел насіў плячак, у якім знаходзіліся балончыкі з фарбай, з расповяду жонкі ведаў, што у хлопца ёсьць прадметы, якія імітуюць узрыўныя ўстройствы. На роспыты Лабковіча адказваў і расказваў, якой установе ці арганізацыі належыць той ці іншы будынак у гор. Стоўбцы. У час нанясеньня Лабковічам і хлопцам па імю Павел надпісу на сьцяне раённай бібліятэкі, на аўтамашыне пад'ехаў знаёмы Ілюшын В. В. , які запатрабаваў аддаць яму балончыкі з фарбай, што і зрабілі. Лабковіч і хлопец па імю Павел у ягонай прысутнасьці нанесьлі надпісы на будынак бібліятэкі, стадыёна "Юнацтва", крамы, будынак санстанцыі, помнік Леніну. (Л. с. 100-101, 214-216, 307-309)

Дапытаны ў якасьці абвінавачваемага па арт. арт. 201 ч.2, $186^2$, 225 ч.2 КК Рэспублікі Беларусь непаўналетні Лабковіч Вадзім Дзьмітрыевіч засьведчыў, што вінаватым у зьдзяйсьненьні інкрымінуемага дзеяньня сябе не прызнае, таму што нанесеныя ім надпісы на сьцены будынкаў не лічыць абражальнымі для грамадства і якога-небудзь пэўнага слою насельніцтва. Надпісы, нанесеныя ім на пастамент помніка не маглі яго пашкодзіць ці пашкодзіць саму скульптуру Леніна. Сьцяг з флагштока на будынку Стаўбцоўскага райвыканкаму не зрываў, а акуратна яго зьняў і склаўшы адвёз у гор Менск, дзе перадаў візуальна знаёмаму хлопцу, лічыць, што сваімі дзеяньнямі ня здзейсьніў зьдзеку над Дзяржаўным сьцягам Рэспублікі Беларусь. Зь якою мэтай ім былі вывешаны прадметы, што імітуюць узрыўныя ўстройствы патлумачыць ня змог. У працэсе допытаў у якасьці абвінавачанага Лабковіч В. Д. не адмаўляў свайго ўдзелу ў нанясеньні надпісаў на будынках у гор. Стоўбцы і помнік Леніну, прызнаў, што разам з хлопцам па імю Павел зьняў Дзяржаўны сьцяг з будынку райвыканкама, аднак свае дзеяньні не расцэньвае як злачынныя.´(л. с. 145-146, 240-241, 307-309)



Сьведка па гэтай справе Піменава Іна Леанідаўна засьведчыла, што Лабковіч Вадзім у гор. Стоўбцы прыбыў разам з групай моладзі з гор. Менску і патлумачыў, што прыбылі яны для правядзеньня акцыі "Горад наш", г. зн., для нанясеньня лозунгаў на будынкі і помнікі ў гор. Стоўбцы. Балончыкі-распыляльнікі з фарбай і сьцягі бела-чырвона-белага колеру Вадзім і хлопцы прывезьлі з сабою з гор. Менску. У Вадзіма і хлопцаў бачыла "бомбы", якія яны меркавалі прымацаваць да вывешаных сьцягоў для таго, каб іх ніхто не спрабаваў зьняць. Асабіста бачыла, як Лабковіч з хлопцам па імю Павел наносілі на сьцены надпісы, надпісы таксама наносілі на помнік Леніну. Ля будынка Стаўбцоўскага райвыканкама Вадзім Лабковіч і Павел залезьлі па пажарнай лесьвіцы на дах і зь іх размовы зразумела, для таго, каб зьняць Дзяржаўны сьцяг з флагштока на даху будынка. (Л. с. 70-72, 189-190).

Сьведка Ілюшын Валеры Валянцінавіч засьведчыў, што праязджаючы на асабістай аўтамашыне ў ноч з 2 на 3 жніўня 1997 года каля будынка Стаўбцоўскай раённай бібліятэкі і асьвятліўшы фасад будынка, бачыў, як Шыдлоўскі А. М. фарбавальнікам з балончыка-распыляльніка наносіў надпіс на фасадзе будынка бібліятэкі. Убачыўшы аўтамашыну Шыдлоўскі з незнаёмымі асобамі паспрабаваў уцякчы, аднак, калі яго паклікалі, спыніўся. Для таго, каб спыніць супрацьпраўныя дзеяньні Шыдлоўскага А. М. і ягоных сяброў, забраў у іх балончыкі распыляльнікі, якія потым перадаў работнікам міліцыі. (Л. с. 73-74, 244-245).

Свае паказаньні Ілюшын В. В. цалкам пацвердзіў пад час правядзеньня вочнай стаўкі з абвінавачваемым Шыдлоўскім А. М., засьведчыўшы, што менавіта Шыдлоўскі А. М. наносіў надпіс на будынак раённай бібліятэкі. (Л. с 246-247).

Дапытаны ў якасьці сьведкі па гэтай справе Шэндзік Сяргей Мікалаевіч засьведчыў, што ў ноч з 2 на 3 жніўня 1997 года разам з Ілюшыным В. В. на ягонай асабістай аўтамашыне праязджалі каля будынка Стаўбцоўскай раённай бібліятэкі і сьвятлом фараў асьвятлілі хлопцаў і дзяўчыну. якія аддаляліся ад бібліятэкі. Ілюшын патлумачыў, што хлопцы пісалі на будынку бібліятэкі і калі паглядзеў, убачыў на фасадзе будынку надпіс. Ілюшын В. В., спыніўшыся, паклікаў аднаго з хлопцаў, а калі тыя спыніліся, падыйшоў да іх, і, узяўшы нейкі прадмет і, трохі пагаварыўшы, вярнуўся назад у салон машыны. Седзячы ў салоне, патлумачыў, што аднаго з хлопцаў, якія наносілі надпіс на будынак бібліятэкі добра ведае, але прозьвішча ягонае не назваў. (Л. с. 75-76).

Сьведка Бакіноўскі Уладзімір Пятровіч засьведчыў, што 3 жніўня 1997 года, каля 11 гадзін да яго дадому прыйшоў Ілюшын і пры размове патлумачыў, што бачыў, як ноччу Шыдлоўскі А. М. з жонкай і некалькімі хлопцамі наносілі фарбай надпісы на фасад будынка Стаўбцоўскай раённай бібліятэкі, таксама патлумачыў, што забраў у іх балончыкі з фарбай. (Л. с. 210-211).

Факт нанясеньня надпісаў на сьцены будынкаў у горадзе Стоўбцы, на помніkі, сарваньне Дзяржаўнага сьцягу Рэспублікі Беларусь з флагштока на будынку Стаўбцоўскага райвыканкама, вывешваньне прадметаў, якія імітуюць узрыўныя ўстройствы пацьвярджаецца пратаколам агляду мейсца здарэньня. (Л. с. 3-14).

Па месцы вучобы і жыхарства абвінавачваемыя Шыдлоўскі А. М. і Лабковіч В. Д. характарызуюцца станоўча, раней да крымінальнай адказнасьці не прыцягваліся. (Л. с. 289-296, 300-306).

На аснове выкладзенага
АБВІНАВАЧВАЮЦЦА:

Шыдлоўскі Аляксей Міхайлавіч...

...Сваімі дзеяньнямі Шыдлоўскі Аляксей Міхайлавіч зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. 201 ч.2 КК Рэспублікі Беларусь, а менавіта, злоснае хуліганства, якое адрозьніваецца па свайму зьместу выключным цынізмам і асаблівай дзёрзкасьцю...

...Сваімі дзеяньнямі Шыдлоўскі Аляксей Міхайлавіч зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. $186^2$ КК Рэспублікі Беларусь, а менавіта, зьдзек з хуліганскіх намераў над Дзяржаўным сьцягам Рэспублікі Беларусь, шляхам яго зрыву...

Сваімі дзеяньнямі Шыдлоўскі Аляксей Міхайлавіч зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. 225 ч.2 КК Рэспублікі Беларусь, а менавіта, наўмысна пашкодзіў гісторыка-культурныя каштоўнасьці, узятыя пад ахову дзяржавай.

Непаўналетні Лабковіч Вадзім Дзьмітрыевіч...

...Сваімі дзеяньнямі Лабковіч Вадзім Дзьмітрыевіч зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. 201 ч.2 КК Рэспублікі Беларусь, а менавіта, злоснае хуліганства, якое адрозьніваецца па свайму зьместу выключным цынізмам і асаблівай дзёрзкасьцю...

...Сваімі дзеяньнямі Лабковіч Вадзім Дзьмітрыевіч зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. $186^2$ КК Рэспублікі Беларусь, а менавіта, зьдзек з хуліганскіх намераў над Дзяржаўным сьцягам Рэспублікі Беларусь, шляхам яго зрыву.....



 

# Падзеі Факты Каментарыі



*13 лютага* – за расклейку ўлётак з заклікам узяць удзел у моладзевым шэсьці ў Менску міліцыяй былі затрыманыя трое маладых грамадзян, на якіх быў складзены пратакол.

*У лютым* — Віцебская гарадская рада Беларускага Народнага Фронту выступіла з заявай з прычыны абмежаванага ўжываньня беларускай мовы дзяржаўнымі структурамі і дыскрымінацыі беларусаў па нацыянальнай прыкмеце. У заяве адзначаецца, што «на працягу апошніх гадоў у Віцебску рэзка скарацілася сфера выкарыстаньня нацыянальнай мовы беларусаў у галіне адукацыі, культуры і сродках масавай інфармацыі. Беларуская мова практычна не ўжываецца ў рабоце ўстаноў, арганізацыі і прадпрыемстваў прамысловасьці, транспарту, гандлю і сферы паслуг. Такім чынам абмяжоўваюцца правы беларускамоўных грамадзян».

*18 лютага* – пачаўся суд у Менскім абласным судзе над Вадзімам Лабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім. Судзьдзя – Уладзімір Лаўроў.

*18 лютага* – на пачатку працэса каля будынку суда Асобым Атрадам Міліцыі быў схоплены Юры Мароз, жыхар г.Віцебска, сябра Віцебскай раённай рады БНФ «Выбар», які трымаў у руках плакат з патрабаваньнем вызваліць вязьняў сумленьня А.Шыдлоўскага і В.Лабковіча. На яго быў складзены пратакол у правядзеньні несанкцыянаванага пікету, Ю.Мароз быў адвезены ў Ленінскі суд г.Менска, дзе асуджаны на 15 сутак зьняволеньня, ня гледзячы на інваліднасьць (у Ю.Мароза парок сэрца). У прыёмніку-разьмеркавальніку Ю.Мароз абвясьціў галадоўку, якую спыніў праз тры дні па настойлівай просьбе кіраўніцтва БНФ.

*18 лютага* – створаны часовы камітэт у абарону дэпутата Вярхоўнага Савета А.Клімава, куды ўвайшлі прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў —Хельсінскі Камітэт, Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96», прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Вольнага прафсаюза, Фонда падтрымкі незалежнай прэсы, Маладога Фронту. У заяве часовага камітэту да А.Клімава, які на працягу шасьці дзён трымаў сухую галадоўку, сказана: «Камітэт у прынцыпе выступае супраць парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. Шырокая грамадскасьць перакананая, што сёньня ў СІЗА на Валадарцы грамадзянін, бізьнесмен і дэпутат парламенту Клімаў – палітычны зьняволены, вязень сумленьня.

*У лютым* – Аб'яднаная грамадзянская партыя правяла серыю пікетаў у абарону дэпутата Вярхоўнага Савета А.Клімава.

*У лютым* – з пакаянным лістом у сродках масавай інфармацыі выступіў адзін з кіраўнікоў дзяржаўнай прапрэзідэнцкай моладзевай арганізацыі Беларускага Патрыятычнага Саюза Моладзі В.Зуеў, які адкрыта заявіў пра свой удзел у складаньні кампраментуючых матэрыялаў супраць Беларускага Народнага Фронту. Фальшывая ўлётка, ад імя БНФ, у якой заклікалі народ узбройвацца ды ісьці на штурм прэзідэнцкага палацу, была «набраная ў адміністрацыі прэзідэнта і разасланая ў дзяржаўныя СМІ».

20 лютага – у Ганцавічах пад час расклейкі ўлётак з тэкстам адкрытага ліста дэпутата 13-га скліканьня Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава да прэзідэнцкай вертыкалі, у якім А.Клімаў заклікаў службоўцаў кіравацца ў сваіх дзеяньнях Канстытуцыяй 1994 г., быў затрыманы міліцыянтам А.Савічам сябра БНФ Мікалай Занька. Па артыкулу 166 АК РБ М.Занька быў асуджаны на штраф у 1,5 млн.руб. Суддзя – Мяшкевіч І.І.

*23 лютага* – на прыступках будынку суда, дзе адбываўся працэс над маладафронтаўцамі А.Шыдлоўскім і В.Лабковічам АМОНам былі схопленыя непаўналетнія сябры «Маладога Фронту» Даніла Міलаванаў, Максім Кашынскі і Зьміцер Касьяровіч. Пры гэтым Д.Мілаванаву заламалі рукі за сьпіну і стукнулі па галаве. Яны былі адвезеныя ў міліцэйскі пастарунак, дзе ім пагражалі, што іх паб'юць, і абвінавацілі ў парушэньні арт.162 АК РБ, у несанкцыянаваным правядзеньні пікету.

*23 лютага* – суддзя Цэнтральнага раёна г.Менску Барысёнак А.В. за распаўсюджваньне незалежнай дэмакратычнай прэсы асудзіў удзельніцу Айчыннай вайны Апанасевіч Галіну Васільеўну на два штрафы, адпаведна 220 і 200 тыс.руб. па арт.148 АК РБ.

*24 лютага* — на прыступках будынку Менскага абласнога суда нематывавана былі схопленыя некалькі грамадзянаў, сярод якіх сябра БНФ Уладзімір Юхо, якому пры затрыманьні зашчамілі і пашкодзілі дзьвярыма машыны руку, а ў машыне адзін з работнікаў міліцыі душыў яго так, што з пастарунку, куды быў завезены У.Юхо, яго забрала машына «Хуткай дапамогі». Пасьля аперацыі і накладаньня швоў У.Юхо быў зноў завезены ў міліцэйскі пастарунак і там на яго быў складзены пратакол, а затым У. Юхо завезьлі ў суд, аднак судовае разьбіральніцтва было перанесена на 4 сакавіка. У.Юхо падаў скаргу ў пракуратуру.

Разам з У.Юхо былі схопленыя сябра праваабарончага цэнтру «Вясна-96» Алесь Сарнацкі і сябра Хельсінскага камітэту Віталь Алісіяёнак. А.Сарнацкі быў адпушчаны, а В.Алісіёнку прызначаны суд на 25 лютага 1997 г.

Яшчэ адзін схоплены у гэты момант – студэнт, сябра «Маладога Фронту» Вадзім Канапацкі. Пасьля складаньня міліцэйскага пратаколу, быў асуджаны проста ў будынку міліцыі суддзём Царашковай да штрафу ў 5 млн.руб.(адпаведна 115 далярам ЗША). Стыпендыя, якую атрымлівае В.Канапацкі складае 250 тыс.руб. (адпаведна 5,7 даляраў ЗША).

*24 лютага* – пад час выцісканьня грамадзянаў ад будынку суда, АМАНам быў схоплены журналіст газеты «Народная Воля» В.Шчукін. Ён быў завезены ў пастарунак. Суд над В.Шчукіным адкладзены на 27 лютага 1997 г.

*24 лютага* – вынесены прысуд двум маладым вязьням сумленьня. 19-гадоваму А.Шыдлоўскаму прысуджана 1,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, В.Лабковічу – 1,5 гады калоніі з 2-гадовай адтэрміноўкай.

*25 лютага* – адбыўся суд над назіральнікам «Хельсінкскага Камітэту» Віталём Алісіёнкам. Суд прысудзіў яго штраф у памеры 1,5 млн.руб.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваны Прэс-службай Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96"**

# У Беларусі
## асуджаныя падлеткі

**26 лютага 1998 г. прэс-сакратар Дзяржаўнага дэпартаменту ЗША Джэймс РУБІН зрабіў наступную заяву адносна асуджэньня беларускім судом двух беларускіх падлеткаў да тэрмінаў турэмнага зьняволеньня:**

"ЗША выказваюць сур'ёзную заклапочанасьць адносна парушэньня правоў чалавека, што працягваюць зьдзяйсьняць улады Беларусі. На гэтым тыдні двое падлеткаў былі асуджаныя на два гады пазбаўленьня волі за нанясеньне анты-прэзідэнцкіх надпісаў на будынак ўрадавай установы. На працягу больш шасьці месяцаў абодвух утрымлівалі ў турме для дарослых па абвінавачваньню ў вандалізме, нягледзячы на неаднаразовыя звароты аб вызваленьні да суда. 24 лютага суд у Менску прысудзіў дзевятнаццацігадовага да васемнаццаці месяцаў пазбаўленьня волі ў працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму і шаснаццацігадовага да такога ж тэрміну з адтэрміноўкай прысуду.

Неабгрунтаванае і антыгуманнае затрыманьне да суда, наданьне характару крымінальнага злачынства нязначнаму грамадзянскаму правапарушэньню і неадпавядаючая ступені зьдзейсьненага цяжкасьць пакараньня нагадваюць пра горшыя злоўжываньні ў часы Савецкага Саюзу. Да дзяцей недапушчальна адносіцца як да звычайных злачынцаў, і не было ніякіх падстаў лічыць гэтых двух падлеткаў уяўляючымі небясьпеку. Мы заклікаем беларускія ўлады вызваліць зьняволенага падлетка і адмяніць годнае шкадаваньня рашэньне.

Гэты выпадак яшчэ раз прадэманстраваў ігнараваньне Беларусьсю нормаў у галіне правоў чалавека, захаваньне якіх чакаецца ад краін-удзельніц АБСЕ. Ён таксама дэманструе важнасьць задачаў, якія стаяць перад Кансультатыўнай і назіральнай групай АБСЕ, чые афіцыйнае адкрыцьцё ў Менску запланавана на канец гэтага тыдня. Мы чакаем ад ўрада Беларусі поўнага супрацоўніцтва з групай у вырашэньні праблемаў, зьвязаных з захаваньнем правоў чалавека, што перашкаджае на дадзеным этапе Беларусі стаць паважаемым членам супольніцтва дэмакратычных дзяржаваў."

# "Насьмешка над правасудзьдзем..."

***Бюлетэнь "Права на волю" атрымаў прэс-рэліз уплывовай міжнароднай праваабарончай арганізацыі "Human Rights Watch", прадстаўнік якой прысутнічаў на судовым працэсе над Вадзімам Лабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім. Падаем некалькі цытат — ацэнак працэсу назіральніка"Human Rights Watch".***

"Human Rights Watch", арганізацыя са штабкватэрай у ЗША, ацаніла слуханьні як паказальны суд і насьмешку над правасудзьдзем. У ходзе чатырохдзённага судовага разбіральніцтва Лабковіч і Шыдлоўскі, якія ўжо правялі амаль шэсьць месяцаў у сьледчым ізалятары,сядзелі ў жалезнай клетцы у акружэньні васьмі ўзброеных міліцыянераў са службовым сабакам...

..."Гэты судовы працэс — абсурдная пародыя на крымінальнае судаводства і гратэскны паказальны суд з мэтай запалохаць маладых людзей, якія выказваюць сваю апазіцыю існуючаму рэжыму ў Беларусі", — заявіла Холі Картнер, выканаўчы дырэктар еўрапейскага і цэнтральна-азіяцкага аддзяленьня арганізацыі"Human Rights Watch". "У большасьці краін, дзе маюцца хаця б прыкметы прававой дзяржавы, абвінавачваньні ў такіх правапарушэньнях, зьдзейсьненых раней не асуджанымі маладымі людзьмі, цягнуць за сабою максімум папярэджаньне ці штраф", працягвала сп-ня Картнер.

...З часоў прыходу да ўлады ў чэрвені 1994 г. прэзідэнт Лукашэнка ліквідаваў амаль усе пазітыўныя зьмены ў галіне правоў і свабодаў чалавека і дэмакратызацыі, якія характарызавалі перабудову і постсавецкі перыяд. "Беларусь усё больш нагадвае горшыя асьпекты Савецкага Саюза, з усімі прыкметамі рэпрэсіяў у савецкім стылі", — каментуе сп-ня Картнер. "Гэты суд зьяўляецца адной з найбольш ненармальных праяваў гэтай тэндэнцыі".

# Рэзалюцыя Еўрапарламента

### па прававому самавольству і арыштах у Беларусі

Еўрапарламент:

- улічваючы папярэднія рэзалюцыі па сітуацыі ў Беларусі,
- прымаючы пад увагу заяву Савета Еўропы ад 15 верасьня 1997 года,
- звяртаючы ўвагу на атрыманыя камісіяй Еўрапарламента па міжнародных справах дакументы аб статусе узаемаадносінаў паміж Еўрапейскім Саюзам і Рэспублікай Беларусь, датаваныя 14 кастрычніка 1997 года,

**A.** выказвае заклапочанасьць у сувязі з няспыннымі паведамленьнямі пра парушэньні правоў чалавека, крыміналізацыю недзяржаўных арганізацый і запалохваньне журналістаў, творчай інтэлігенцыі і палітычных апанентаў. Гэта сьведчыць пра тое, што прэзідэнт Лукашэнка яўна не жадае ўстанаўліваць дэмакратычныя стандарты, што яшчэ больш павялічвае прорву паміж Беларусьсю і дэмакратычным сьветам.

**B.** выказвае заклапочанасьць за лёс школьніка і двух студэнтаў, арыштаваных у жніўні і кастрычніку 1997 года за напісаньне антыпрэзідэнцкіх лозунгаў і дэманстрацыі афіцыйна забароненага нацыянальнага сьцяга, якія па-ранейшаму ўтрымліваюцца у сьледчым ізалятары ў парушэньне ўсіх норм міжнароднага заканадаўства і без усялякай магчымасьці працягваць вучобу.

**C.** выказвае заклапочанасьць у сувязі з жорсткім зьбіцьцём Юрыя Хашчавацкага, міжнародна прызнанага кінарэжысёра, члена Беларускага Хельсінскага камітэта і руху "Хартыя — 97", якое адбылося ў той самы вечар, калі нямецкае тэлебачаньне паказала яго фільм "Звычайны прэзідэнт", у якім крытыкуецца стыль кіраўніцтва прэзідэнта Лукашэнкі.

**D.** зьвяртае ўвагу на пастаянныя паведамленьні аб дзеяньнях белерускіх уладаў па запалохваньні журналістаў, такія, як: пагроза фізічнай расправы, звальненьне з рабочых мейсцаў і выключэньне з вучэбных устаноў.

**E.** прымае пад увагу, што тысячы маладых і адукаваных людзей пакідаюць краіну з-за адсутнасьці перспектывы, у той час як актывісты дэмакратычнай апазіцыі далі ход "Хартыі — 97" — руху, які закліканы ў чарговы раз адшукаць мірны шлях вяртаньня дэмакратыі.

**1.** Заклікае беларускае кіраўніцтва да аднаўленьня міжнародных стандартаў у адносінах да правоў чалавека, свабоды слова і друку, так, як гэта абвяшчае Міжнародная Канвенкцыя аь грамадзянскіх і палітычных правах і Праская Хартыя для новай Еўропы, пад якімі Беларусь паставіла свае подпісы і якія зьяўляюцца асновай пабудовы адносінаў паміж Беларусьсю і Еўрапейскім Саюзам.

**2.** Заклікае беларускія ўлады вызваліць з-пад арышту школьніка і двух студэнтаў, якія ўжо амаль паўгода ўтрымліваюцца ў сьледчым ізалятары.

**3.** Заклікае прэзідэнта Лукашэнку неадкладна спыніць перасьледаваньне і запалохваньне журналістаў, членаў апазіцыі і іншых грамадскіх актывістаў.

**4.** Заклікае прэзідэнта Лукашэнку загадаць прызначыць неадкладнае расьсьледаваньне нападу на Юрыя Хашчавацкага.

**5.** Яшчэ раз падкрэслівае, што супрацоўніцтва паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларусьсю можа працягвацца толькі ў тым выпадку, калі беларускі ўрад будзе ясна дэманстраваць свае крокі на шляху да павагі правоў чалавека, дэмакратычных і заканадаўяых пераўтварэньняў.

**6.** Пацьвярджае сваю падтрымку заявы Савету Еўропы ад 15 верасьня 1997 года.

**7.** Акцэнтуе ўвагу на далейшай неабходнасьці фінансавай падтрымкі праграм па далейшым удасканаленьні структуры беларускага грамадства і ацэньвае магчымасьці стварэньня неабходных умоў для навучаньня беларускіх студэнтаў за мяжою з мэтай азнаямленьня іх з дэмакратычнымі каштоўнасьцямі.

**8.** Упаўнаважвае свайго прэзідэнта перадаць гэтую рэзалюцыю ў Камісію, Савет, прэзідэнту і ўраду Беларусі і дэмакратычна абранаму Парламенту Беларусі.

# Рэабілітацыя Зоны сьмерці

На днях з Прагі Чэскай паступілі зьвесткі пра чарговую апеляцыю беларускіх грамадзянаў на прадстаўленьне палітычнага прытулку. Паэтка Ніна Аксёнчык з сям'ёй вырашыла не вяртацца ў родны Мазыр. На мой погляд той, хто жадае выступіць з суровымі маральнымі меркаваньнямі наконт гэтага непатрыятычнага ўчынку, няхай сам едзе на сталае жыхарства ў атручаную радыяцыяй Гомельшчыну і пасылае свае філіпікі ўжо адтуль — з тэрыторыі, на якой нельга жыць людзям, дзе дзеці ня маюць будучыні. А мы ведаем, што маладая жанчына і яе сям'я падвяргаліся зьдзеку і дыскрымінацыі з боку ўладаў за яе актыўны удзел у дэмакратычным руху.

Пасьля шумлівых вяжоў Лукашэнкі па чарнобыльскіх раёнах Беларусі афіцыйная "навука" запрапанавала грамадству новую канцэпцыю з містычнай лацінскай назвай "Рэабілітацыя радыяцыі". Відаць, трэба было б сфармуляваць больш класічна. Напрыклад, "Memehto mori" або "Vita brevis". Гэта, аднак, не зьмяніла б сутнасьці, пра якую шчырымі, простымі словамі даходліва даводзіў таварыш прэзідэнт на мітынгах, стоячы пад помнікамі Леніну: катастрофа мінула ў нябыт, трэба вяртацца ў пакінутыя паселішчы, жыць, араць, сеяць і ашчасьліўліваць суграмадзянаў малаком, збожжам ды іншай прадукцыяй. З радыяцыяй вырашылі абысьціся, як з ахвярамі камуністычных партыйных чыстак 1937 г. — рэабілітаваць. Вось толькі растлумачыць ня могуць, што гэта значыць. Так і прызнаюцца ў перадачах беларускага радыё для замежных слухачоў — "ня ведаем". Бананавым дыктарам трэба павучыцца класічнай адукаванасьці бульбянага аўтарыта-рызму і разабрацца са стыхійнымі бедствамі. Прыклад даў яшчэ персідскі цар Ксэркс, загадаўшы хвастаць пугамі марскія хвалі, якія разьбілі мост, пабудаваны для ягонага войска.



За анекдатычнасьцю чарговай "усенароднай ініцыятывы" вымалёўваецца страшны сілуэт дзяржаўнага злачынства. Рэжым пазбаўляе некалькі мільёнаў людзей права на жыцьцё і здароўе, выкарыстоўваючы хлусьню і гвалт. Правал праграмы адсяленьня, пазбаўленьне пацярпелага насельніцтва ільготаў і датацыяў, перасьлед асобаў, якія казалі праўду пра катастрофу і яе наступствы. І вось цяпер адкрыты заклік да вяртаньня ў Зону Сьмерці. У недалёкай будучыні Міжнародны Чарнобыльскі трыбунал дазнаецца, хто ёсьць арганізатарам радыяцыйнага генацыду нашага народу, хто зацікаўлены ў працягваньні антыгуманнага эксперыменту над беларускімі дзецьмі.

Хаця нацыянальныя рамкі чарнобыльскага палігону значна пашырыліся. У пакінутых вёсках, у хатах, дзе даzіметры зашкальваюць, жывуць і ўдарна працуюць тысячы ўцёкачоў з Таджыкістану, Арменіі, Абхазіі. Імігранты атрымліваюць прапіску ў парушэньне закона Рэспублікі Беларусь пра грамадзянства, ніхто не тлумачыць ім, з якой небясьпекай яны сутыкнуліся. Улады задаволеныя, што ёсьць каму выконваць гападарчыя планы. Нягледзячы на самую высокую ў Еўропе сьмяротнасьць, колькасьць закладнікаў "рэабілітацыі" расьце.

Некалі старажытнабеларуская дзяржава была пажаданым прытулкам у цэнтры Еўропы. Сюды ўцякалі ад перасьледу, спадзяючыся на талерантнасьць і гарантыі свабоды, пакрыўджаныя з усходу і з захаду: габрэі з Еўропы ў 15 ст., апанент расійскага цара Івана Жахлівага князь Андрэй Курбскі ў 16 ст., расійскія стараверы ў 17 ст., іезуіты ў 18 ст. Цяпер адкрытая мяжа з Расеяй пераўтварыла Беларусь у транзітны калідор для курдаў і пакістанцаў, якія прарываюцца на захад. Чарнобыль прымае ў абдымкі ахвяраў постсавецкіх канфліктаў. З Беларусі эмігруюць літаратары, навукоўцы, прадпрымальнікі, актыўная моладзь. Рэжыму патрэбныя толькі паслухмяныя рабы.

**Валеры БУЙВАЛ**

# Героі нашага часу...

*(Працяг.*
*Пачатак на стар. 1)*

Такім чынам, мільярды рублёў, укладзеных у БПСМ, аддачы не далі. Мітынгі апазіцыі па-ранейшаму зьбіралі тысячы маладых грамадзянаў. На іх тле зусім сьмешнымі выглядалі спробы прыхільнікаў прэзідэнта праводзіць свае "мерапрыемствы: на іх зьбіраліся выключна пенсіянеры.

І тады пачаўся новы этап "барацьбы за моладзь". Назваць яго можна адным словам: *запалохваньне*. Пачаліся масавыя арышты маладых людзей на мітынгах і шэсьцях апазіцыі. Прычым, як на несанкцыянаваных, так і на санкцыянаваных. Сотні студэнтаў, школьнікаў, рабочых прайшлі праз міліцэйскія пастарункі і сьледчыя ізалятары. Грашовыя штрафы і прысуды ад трох да пятнаццаці сутак арышту за парушэньне сьпецыяльна прынятага прэзідэнтам Дэкрэта №5, сталі звычайнай справай.Забарона выкарыстаньня беларускай гістарычнай сімволікі (яшчэ нядаўна — дзяржаўнай), пад якой праводзіла і праводзіць свае мітынгі апазіцыя, а таксама спробы задушыць незалежны друк, выклікалі сяроды моладзі адпаведную рэакцыю: хлопцы і дзяўчаты пачалі замяняць "афіцыйныя" чырвона-зялёныя сьцягі на бел-чырвона-белыя, распісваць платы і сьцены дамоў антыпрэзідэнцкімі надпісамі. Моладзь пачала праводзіць акцыі пад умоўным назовам "Горад — наш!", за ноч замяняючы "афіцыйную" сімволіку на сваю і вывешваючы бел-чырвона-белыя сьцягі на самых відных і высокіх мейсцах. Такія акцыі прайшлі ў некалькіх гарадах Беларусі, у тым ліку і ў сталіцы. Менавіта за правядзеньне такой акцыі ў Стоўбцах і былі арыштаваныя Вадзім Лабковіч і Аляксей Шыдлоўскі.

Сёньня кожны, хто валодае інфармацыяй пра Беларусь і можа правесьці гістарычныя паралелі, пагодзіцца з такою высновай: цяперашнія беларускія ўлады паводзяць сябе на роднай зямлі, як захопнікі, як акупанты. І нездарма на барацьбу зь імі паўстала моладзь. Прычым сродкі барацьбы за стагодзьдзі не зьмяніліся, і яны такія ж, як былі некалі ў Францыі ці Германіі, у Польшчы ці Чэхіі. З часам тых, хто змагаецца з акупантамі, народ называе сваімі нацыянальнымі героямі. Нашыя хлопцы ў гэтым сэнсе — героі класічныя (до сьціпласьці, не будзем саромецца казаць пра гэта). Яны мужна ператрывалі паўгадовае дасудовае ўтрыманьне ў турме са шматлікімі допытамі, запалохваньнямі, фізічнымі пакутамі, зьбіцьцём... Дарэчы, у акцыі ўдзельнічалі акрамя В. Лабковіча і А. Шыдлоўскага яшчэ восем чалавек, якія так і засталіся "невядомымі". Хлопцы не назвалі сваіх сяброў, не выдалі. І гэта таксама мужнасць...

Зразумела, улады павінны былі ператварыць гэты працэс у паказальны: каб запалохаць іншых сапраўдных патрыётаў Беларусі, змагароў супраць дыктатуры, за дэмакратычную будучыню сваёй Радзімы. І ўсё ж, ніхто не чакаў, што прысуд будзе настолькі жорсткім і бязьлітасным. Паўтары гады турмы за "графіці"? Гэта было б занадта, нават тады, калі б сьцены нашых дамоў і пад'ездаў былі заўсёды стэрыльна чыстымі. Гэта занадта сурова і згодна міжнародных прававых норм. Прыраўненьне "графіці" падлеткаў да крымінальных злачынстваў вяртае нас у савецкія часы, калі змаганьне з іншадумствам вялося менавіта такімі сродкамі...

Прэзідэнт Беларусі некалі сказаў: "Я свой народ за цывілізаваным сьветам не павяду..." Моладзь адказала тады на гэта клічам: "Беларусь — у Еўропу..." І распачала змаганьне за сваю будучыню. Аляксей Шыдлоўскі стаў першым у найноўшай гісторыі Беларусі палітычным вязьнем. І першым героем...

**Андрэй НАЛІВА**

**Права на волю. Бюлетэнь праваабарончага цэнтру "Вясна-96 г."**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, англійскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаны малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*